ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№01 (34) студзень 2014 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны




# НОВЫ БІСКУП у Віцебску

Чытайце на стар. 5

Касцёл

Новыя кардыналы

Стар. 3

Інтэрв'ю

Манах і брэйк-данс

Стар. 4

Пытанне святару

Неадпушчаны грэх аборту

Стар. 7

# У касцёл як у тэатр?

**Хаджу ў касцёл амаль кожны дзень і хачу падзяліцца з чытачамі газеты сваімі назіраннямі. Безумоўна, пры наведванні святыні мы павінны прытрымлівацца пэўных правілаў. У нас, католікаў, неабавязкова жанчынам пакрываць галаву хусцінкай або шалікам, апранаць доўгае адзенне, можна быць нават у джынсах. Але ж не вельмі прыемна бачыць летам у касцёле маладую дзяўчыну ў вельмі кароценькай спадніцы ці сукенцы з аголенымі плячыма. Можна ж прыкрыць сваю “прыгажосць”, накінуць на шыю лёгенькі шалік... Ды і з касметыкай не трэба перабольшваць.**

**■ Аліцыя Трафімовіч, г. Паставы**

Яшчэ хачу нагадаць пра мабільнікі, якімі карыстаецца не толькі моладзь. Многія “прасунутыя” бабулькі маюць гэтую рэч XXI стагоддзя. Вельмі непрыемна бывае, калі падчас св. Імшы пачынае гучаць дыскатэчная музыка. Не забывайце, калі ласка, выключаць мабільнікі ў касцёле.

І яшчэ пажаданне: будзьце ўзаемаветлівымі! Калі хтосьці прыйшоў у святыню раней і заняў месца, якое вы лічыце сваім, то не трэба рабіць гэтаму чалавеку заўвагу або праганяць яго на іншае месца. У касцёле месцы не па білетах, гэта не тэатр, тут усе роўныя. Хочацца звярнуцца да маладзейшых з просьбай: саступіце месца бабульцы, прапусціце наперад маленькіх дзетак, старайцеся не размаўляць падчас св. Імшы. Усё гэта не патрабуе вялікіх намаганняў, але дазволіць нам быць больш блізкімі да Пана Бога і адно да аднаго!




## Пахвалёны Езус Хрыстус!

З часу заснавання нашай парафіі ў Расонах прайшло крыху больш за 13 гадоў. З першага дня з намі кс. Вячаслаў Барок, які будуе касцёл, зносіць усе цяжкасці. Віншуем нашага кс. Вячаслава з Днём нараджэння, які ў яго 6 снежня. Жадаем нашаму пробашчу моцнага здароўя, Божай апекі на кожную хвіліну.

Наш пробашч некалькі разоў на год выязджае па справах з парафіі, і тады св. Імшу ў нядзелю адпраўляюць святары з іншых парафій. Праводзіў св. Імшу ў нас і кс. Алег Буткевіч. Ён з тых людзей, якія запамінаюцца на ўсё жыццё. Яго ўсмешка сыходзіць ад душы, ад размовы з ім робіцца вельмі цёпла на сэрцы. Віншуем кс. Алега з прызначэннем біскупам, жадаем яму моцнага здароўя, дапамогі Бога Айца ў біскупскім служэнні.

**Парафіяне з г.п. Расоны**

**Почта редакции**

*Слава Христу!*

Пишу из мест лишения свободы.

Поздравляю редакцию и всех читателей газеты с Рождеством Христовым и Новым 2014 годом! Желаю Божьей ласки в жизни и здоровья.

Также благодарность и наилучшие пожелания кс. Славомиру Самковичу из г. Глубокое, который приезжает к нам, проводит св. Мессу, несёт нам Божье Слово, всем братьям из ордена меньших капуцинов, сестре Раисе Зеньчук из Легиона Марии г. Вилейки. Храни вас Господь! Пусть с Рождеством Христа придёт в ваши сердца Его Любовь.

*С уважением,*
*Андрей Марьянович Шишко*

# Святар ад Бога

**Лёзна**

У жніўні 2005 года ў парафію св. Айца Піа, што ў г.п. Лёзна, прыехаў кс. Алег Півавар. Гэта святар, які глыбока ведае духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Ён адразу спадабаўся парафіянам і для многіх стаў прыкладам самаахвярнага служэння Богу і людзям. Кожнае яго слова трывала западае ў душу. Да кс. Алега хінуцца і старыя, і дзеці, і моладзь, яны нясуць свае гора і радасць, дзеляцца смуткам і болем. Наш пробашч надзвычай працалюбівы і цярплівы. Вельмі шмат цяжкасцяў даводзіцца пераадольваць яму пры ўзвядзенні касцёла.

Прайшло свята Божага Нараджэння. Кс. Алег наведвае парафіянаў, не толькі асвячае нашы хаты, але нясе нам міласэрнасць, цеплыню і любоў, апраменьвае нашы сэрцы сваім святарскім святлом. Пасля асвячэння дамоў мы збіраемся ў аднаго з парафіянаў і кс. Алег адпраўляе св. Імшу. Не хочацца нават, каб такі добры чалавек пакідаў хату.

Няхай добры Бог асвеціць зямны шлях нашага цудоўнага святара, каб з яго казаннямі і дапамогай мы маглі ратавацца і радаваць нашы душы, вучыцца і вучыць нашых дзяцей і ўнукаў быць спагадлівымі і міласэрнымі. Каб маглі з Богам ісці ўсё сваё жыццё і заўжды адчуваць сябе часткай паўсюднага Касцёла.

Нізка кланяемся і дзякуем нашаму пробашчу за яго залатыя рукі, старанне і за ўсё, што было зроблена ў парафіі за дзевяць гадоў яго служэння. Няхай Усемагутны Бог дапамагае яму ў ажыццяўленні планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за нашага любімага святара перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай, адорвае ласкай і любоўю, радасцю, з пяшчотай прытуляе да свайго сэрца. Мы хочам, каб кс. Алег назаўсёды заставаўся з намі. Няхай Езус Хрыстус адорвае бацькоўй нашага шаноўнага пробашча патрэбнымі ласкамі і моцай сваёй любові на доўгія гады.

**Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі св. Айца Піа ў Лёзне**

# РОЖДЕСТВЕНСКИЙ ПОДАРОК ДЛЯ ДЕТЕЙ



**Вот и произошло то, чего так долго ждали дети лынтупского прихода, – поездка в столицу нашей Родины – город Минск.**

**■ Марина Снежкова, текст и фото**

Вот и произошло то, чего так долго ждали дети лынтупского прихода, – поездка в столицу нашей Родины – город Минск.

Так как мы живём в небольшой деревеньке и видим только домашних животных, то те животные, которых увидели в зоопарке, произвели на нас огромное впечатление. Дети посетили зоопарк, побывали на великолепном представлении в дельфинарии «Немо». Увидели таких животных, как верблюд, ламы, обезьяны, дикобраз, свирепый лев и мирно спящий медведь. От разнообразия видов рыб разбегались глаза. А шоу с дельфинами произвело неизгладимое впечатление и подарило столько положительных эмоций, заряда которого хватит надолго. Их виртуозное представление наполнило детей радостью. После всего увиденного у наших деток разыгрался аппетит, и мы посетили замечательное кафе. Официант проводил всю нашу компанию из 47 человек в уютный зал, где угостили нас вкусной пиццей и соком.

На обратном пути в автобусе раздавалось радостное песнопение. Это дети вместе с сёстрами Люцинай и Антонией пели весёлые рождественские песни, чтобы поблагодарить Бога за этот замечательный день.

Выражаем благодарность БКО «Каритас» Витебской епархии и настоятелю лынтупского прихода св. Андрея Апостола кс. Павлу Кнуреку за такой волшебный, рождественский подарок.

# Біскупу Алегу
## ад парафіян

Наш паважаны ксёндз Алег Буткевіч! Хочам падзякаваць Вам за 10-цігадовае служэнне нашай парафіі, за малітву, падтрымку ў цяжкіх сітуацыях, пачуццё гумару, за прыклад сапраўднай пакоры, паслухмянасці, а перадусім – вернасці Пану Богу. За тое, што для кожнага верніка, як старога, так і малога, знаходзілі патрэбныя словы, былі для нас сябрам, братам, айцом. Дзякуючы Вам узнёсся крыж і на вуліцы Гагарына ў Віцебску. Цяпер усе ведаюць, што гэта не Дом культуры, не секта (як казалі раней), а Дом Божы – Касцёл.

На жаль, не давялося Вам завяршыць будаўніцтва нашага касцёла, бо 29 лістапада Папа Францішак прызначыў Вас на пасаду біскупа Віцебскай дыяцэзіі. Сёння, 18 студзеня, Вам удзелена біскупская сакра. Вы атрымалі пастырскі посах, які з’яўляецца знакам таго, што Пан Бог выбраў Вас на пастыра, які павінен аддаць жыццё за сваіх авечак, і крыж, які нагадвае Вам пра нялёгкую справу весці людзей да неба.

Паважаны біскуп Алег! Віншуем Вас ад усяго сэрца і выказваем самыя цёплыя і шчырыя пажаданні.

*Дарог у свеце вельмі многа,*
*А ты між іх сваю знайшоў.*
*Няхай нялёгкая дарога –*
*Пакінуў дом свой і бацькоў.*
*13 год быў святаром:*
*Вучыў, маліўся, даваряў,*
*Распавядаў людзям пра Бога*
*І храм паціху будаваў.*
*Не скончыў ты будоўлю гэту,*
*Паклікаў надалей цябе Хрыстос.*
*Ты біскуп сёння ўжо – і гэта азначае,*
*Што цябе любіць Бог.*
*Адказнасць на сябе ўзяў*
*За люд і святароў.*
*Будуеш цяпер ты адзіны Касцёл.*
*Няхай! Абы верыў прагна:*
*Ты не адзін, Пан Бог з табой.*
*Любоў Хрыста веру моцную дае,*
*Блаславіяе хай і цябе,*
*І кожны крок твайго жыцця.*
*І ты па прыкладзе Хрыста,*
*Нясі цяжар свайго крыжа.*

**Вольга Шыдлоўская, ад імя ўсіх вернікаў парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Віцебску.**

# НОВЫЯ КАРДЫНАЛЫ Ў КАСЦЁЛЕ



**Папа Францішак падчас сустрэчы з вернікамі на малітве "Анёл Панскі" 12 студзеня назваў імёны новых кардыналаў. Пантыфік нагадаў, што 22 лютага, у свята Катэдры св. Пятра, скліча кансісторый, падчас якога прызначыць 16 кардыналаў, каторыя, належачы да розных народаў, "прадстаўляюць цесную касцельную сувязь паміж Касцёлам Рыма і іншымі Касцёламі па ўсім свеце".**

### Хто такія "кардыналы"?

Кардыналы, згодна з кананічным правам, складаюць адмысловую калегію, правамоцную клапаціцца пра абранне Рымскага Пантыфіка. Акрамя таго, кардыналы аказваюць дапамогу Рымскаму Пантыфіку: як дзейнічаючы калегіяльна, калі яны склікаюцца разам для абмеркавання пытанняў, што маюць важнае значэнне, так і паасобку, займаючы розныя пасады і тым самым садзейнічаючы Рымскаму Пантыфіку, асабліва ў яго штодзённым клопаце пра ўвесь Касцёл. Па стане на 15 студзеня 2014 года ў Калегіі налічваецца 199 кардыналаў, з іх 107 – з правам голасу на Канклаве. Як паведамляе беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё, "у сваім выбары Папа прытрымліваўся прынцыпу наяўнасці 120 кардыналаўвыбаршчыкаў. На гэты момант было 13 "вакантных" месцаў, яшчэ 3 вызваляцца да канца мая".

### Еўропа саступае месца

Гледзячы на гэты пералік, немагчыма не заўважыць, што большасць новых кардыналаў паходзіць з неeўрапейскіх краін. На сённяшні дзень колькасць еўрапейцаў з ліку 107 наяўных кардыналаў, якія маюць права ўдзелу ў Канклаве, складае 56 чалавек. Пры гэтым амаль палова ахрышчаных католікоў пражывае цяпер у Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, у той час як у Еўропе – менш за чвэрць, а найхутчэйшы рост Касцёла адбываецца ў краінах Азіі і Афрыкі. Зразумела, што кіраванне супольнасцю, якая налічвае болей за 1,2 млрд. чалавек, вымагае ведання стану справаў, патрэбаў і праблемаў на месцах. Менавіта таму Святы Айцец, абіраючы кандыдатаў на кардынальскае званне, аддае перавагу прадстаўнікам Касцёла з краін, дзе каталіцтва жыве і імкліва развіваецца. Пры гэтым большасць новапрызначаных неeўрапейцаў прадстаўляюць каталіцкія супольнасці краін, якія не маюць кардыналаўвыбарнікаў, а гэта забяспечыць больш шырокае прадстаўніцтва каталіцкага свету падчас наступных выбараў Папы.

> **Амаль палова ахрышчаных католікоў пражывае цяпер у Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, у той час як у Еўропе – менш за чвэрць, а найхутчэйшы рост Касцёла адбываецца ў краінах Азіі і Афрыкі**

### Дарадчыкі Папы

Як ужо адзначалася вышэй, акрамя правядзення выбараў новага Папы, кардыналы дапамагаюць Святому Айцу ў кіраванні Касцёлам. Калегіяльнай дзейнасцю кардыналы аказваюць дапамогу пераважна ў кансісторыях, у якіх яны збіраюцца па загадзе Рымскага Пантыфіка і пад яго старшынствам. І калі ў звычайных кансісторыях, дзе абмяркоўваюцца пытанні важныя, але разам з тым надзённыя, склікаюцца пераважна кардыналы, якія прысутнічаюць у Рыме, то ў надзвычайных кансісторыях, дзе вырашаюцца асабліва важныя для жыцця Касцёла тэмы, павінны браць удзел усе кардыналы. Пашырэнне геаграфіі прадстаўнікоў адпаведна павінна палепшыць і разуменне сітуацыі, а значыць, і якасць рашэнняў, якія прымаюцца.

Звычайны кансісторый, які адбудзецца 22 лютага, будзе першым за час пантыфікату Папы Францішка.

**а. Зміцер Чарнель, рэдэмптарыст**

## Новыя кардыналы Касцёла:

**арцыбіскуп П'етра Паралін, дзяржсакратар Яго Святасці;**
**арцыбіскуп Ларэнца Балдзісэры, генеральны сакратар Сіноду біскупаў**
**арцыбіскуп Герхард Мюлер, прэфект Кангрэгацыі веравучэння;**
**арцыбіскуп Беньяміна Стэла, прэфект Кангрэгацыі па справах духавенства;**
**арцыбіскуп Вэстмінстэра (Англія) Вінцэнт Нікалс;**
**арцыбіскуп Манагуа (Нікарагуа) Леапольда Хасэ Саларсана;**
**арцыбіскуп Квэбэка (Канада) Жэраль Сіпрыян Лакруа;**
**арцыбіскуп Абіджана (Кот д'Івуар) Жан-П'ер Кутва;**
**арцыбіскуп Рыа-дэ-Жанейра (Бразілія) Арані Тэмпеста;**
**арцыбіскуп Перуджы (Італія) Гвальцьера Басэці;**
**арцыбіскуп Буэнас-Айрэса (Аргенціна) Марыё Аўрэліё Полі;**
**арцыбіскуп Сеула (Карэя) Андру Ём Су Чжун;**
**арцыбіскуп Санцьяга (Чылі) Рыкарда Эсаці Андрэла;**
**арцыбіскуп Уагадугу (Буркіна-Фасо) Філіпэ Накелентуба Уэдраога;**
**арцыбіскуп Катабата (Філіпіны) Арланда Уэвэда;**
**біскуп Ле-Ке (Гаіці) Шылбі Ланглуа.**

# 100 МИЛЛИОНОВ МУЧЕНИКОВ



**В настоящее время в мире подвергаются преследованиям более 100 миллионов христиан. Причем наибольшую жестокость проявляют власти Северной Кореи, говорится в исследовании «Мировой индекс преследований», опубликованном в среду, 8 января, правозащитной организацией «Open Doors». Так, гражданам КНДР, у которых обнаружат Библию, грозит смертная казнь или заключение в трудовой лагерь, причем суровому наказанию подлежит вся семья, отмечает агентство EPD.**

В списке со второго по десятое место занимают страны, в которых к насилию в основном прибегают исламские экстремисты – Сомали, Сирия, Ирак, Афганистан, Саудовская Аравия, Мальдивы, Пакистан, Иран и Йемен. Всего в индекс попали 50 стран, в которых христиане подвергаются преследованиям.

Серьезную озабоченность вызывает преследование христиан исламистами в Африке, отмечает агентство DPA. «К сожалению, чудовищные проявления жестокости в отношении христиан не привлекают должного внимания мировой общественности», – заявил глава отделения «Open Doors» в Германии Маркус Роде (Markus Rode). Он призвал представителей духовенства и политиков усилить борьбу против массовых нарушений прав человека, в том числе права на свободное вероисповедание.

news.tut.by

# Манах і брэйк-данс

**Кожны святар праслаўляе Бога малітвай. Гэта ўжо звыклы для людзей спосаб. А вось а. Антон Нікалаеў, рэдэмптарыст з парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Мінску, хваліць Госпада, танцуючы брэйк-данс.**

**– Скажыце, калі Вы ўпершыню адчулі жаданне танцаваць брэйк-данс?**

– Зацікаўленне прыйшло яшчэ ў школьныя гады, дзесьці напрыканцы 90-ых. У тыя часы ўжо можна было пабачыць гэтыя танцы ва ўрыўках з тэлеперадач. Я яшчэ не ведаў пэўнай тэхнікі, як трэба правільна танцаваць. На пачатку эпохі інтэрнэту пачалі з'яўляцца відэаўрокі вулічных танцаў. Тады я пачаў вучыцца. З'явіўся таксама стымул: танец мог дапамагаць у працы з моладдзю. Калі я працаваў у Львове, мы наладзілі гурток для падлеткаў і дзяцей з парафіі і разам танчылі.

**– Ёсць мноства відаў вулічных танцаў. Якімі з іх Вы найбольш цікавіцеся?**

– Я зацікавіўся двума. Адзін з іх брэйк-данс, а другі – попінг. Гэтыя танцы зарадзіліся ў Амерыцы. Калі яны прыйшлі ў Савецкі Саюз, попінг памылкова пачалі называць верхнім брэйк-дансам. Насамрэч гэтыя стылі ўзніклі ў розныя гады ў розных месцах і выконваюцца пад розную музыку. Але яны належаць да хіп-хоп культуры. Таму на адным спаборніцтве могуць сустракацца танцы розных відаў.

**– Якім чынам Вашае пакліканне звязана з танцамі?**

– Танец для мяне – сродак евангелізацыі. Езус вучыць нас быць вынаходлівымі і выкарыстоўваць тыя таленты, што ў нас ёсць. Я люблю танцаваць. Гэтым дарам я магу праслaвіць Госпада. Кніга Валадарстваў расказвае пра караля Давіда, які выказваў радасць, танцуючы перад Богам. Ведаем, што Папа Ян Павел II сустракаўся з танцорамі брэйк-дансу. Яны танцавалі перад ім. Папа заўсёды быў адкрыты для творчых людзей. У нас шмат дароў, якія мы можам развіваць на хвалу Божую. Танец – добрая нагода для таго, каб падзяліцца радасцю з іншымі. Паказваючы пэўны нумар, я служу бліжнім. Гэта таксама доступ да маладых. Вялікая колькасць маладых людзей належыць да той ці іншай субкультуры. Выходзячы да падлеткаў, мы паказваем, што цікавімся іх жыццём. Яны бачаць, што супольнасць вернікаў неабыякавая да іх захапленняў. Як вынік яны пачынаюць добра ставіцца да Касцёла.

> ***...ён сказаў мне: “Ты самы класны святар, якога я ведаю”***

**– Брэйк-данс – вулічны танец. Раскажыце пра Вашы танцы для шырокага кола гледачоў?**

– У нас было некалькі масавых акцый. Мы арганізоўвалі хрысціянскія канцэрты і запрашалі моладзь прыняць удзел у іх. Заўсёды была магчымасць пазнаёміцца, паразмаўляць, завязаць кантакты, каб далей запрашаць іх да нашай хрысціянскай супольнасці.

**– Ці ёсць у Вас суполка, група “хрысціянскага танца”? Калі не, ці былі думкі яе стварыць?**

– У Львове была такая суполка. Магчыма стварыць такі гурт і ў Беларусі. Бо тых, хто цікавіцца такімі танцамі, сотні. Хацелася б запрасіць моладзь, якая ўжо ўмее танцаваць, а таксама і нехрысціянскую моладзь, з якой ёсць у нас агульны інтарэс і тэмы для размоў. Можна выкарыстаць у хрысціянскім асяроддзі свае таленты. Таму запрашаю моладзь з розных гарадоў да аб'яднання. Давайце разам арганізуем супольныя канцэрты на хвалу Божую.

**– Вы займаецеся танцамі не толькі з парафіянамі?**

– Мы арганізоўвалі спаборніцтвы па танцах сярод нехрысціянскай моладзі. Хацелася зацікавіць маладых, пазнаёміцца з імі і запрасіць іх да сябе. Разам мы паказвалі ім розныя нумары рэлігійнай тэматыкі, спявалі песні. Калі яны даведваліся, што гэта маладыя вернікі, то казалі: “вау”, “крута”. Змяняўся іх погляд і адносіны да нас. Раней яны думалі, што Касцёл – гэта толькі нейкія бабулі, якія ставяць свечкі і бясконца б'юць паклоны. Яны ўжо пабачылі, што і мы, хрысціяне, таксама бавім час цікава, актыўна і без граху. Тыды ў юнакоў і дзяўчат з'яўлялася жаданне прыйсці да Бога.

**– А якая рэакцыя ў маладых танцораў, калі яны даведваюцца, што Вы – айцец-рэдэмптарыст?**

– Улетку я пазнаёміўся на вуліцы з падлеткамі, якія танцавалі. Я падышоў да іх, пачаў гаварыць. Сказаў, што таксама цікаўлюся танцамі. Потым мы пасябравалі. Зараз таксама кантактуем, яны прыходзяць на моладзевыя спатканні, акцыі, фестывалі. Было бачна, што ім падабаецца. Потым яны даведаліся, што я святар. Успрынялі гэта з цікавасцю. Цяпер яны не баяцца ісці да мяне. Адзін з тых хлопцаў, які не ходзіць ні ў царкву, ні ў касцёл, сказаў, што калі б ён захацеў прыняць шлюб, то запрасіў бы мяне ў якасці святара павянчаць. Аднойчы ён сказаў мне: “Ты самы класны святар, якога я ведаю”. Кажу не для таго, каб пахваліцца, але радуюся, што яны не будуць асуджаць Касцёл паміж сяброў, што будуць думаць пазітыўна пра хрысціянскую супольнасць.

> ***Калі яны даведваліся, што гэта маладыя вернікі, то казалі: “вау”, “крута”***

**– Якія б Вы парады далі тым, хто хацеў бы навучыцца танцаваць?**

– Трэба мець жаданне і волю. Шмат маіх знаёмых выказвала жаданне танцаваць, але іх спакушала лянота. Неабходна ставіць перад сабою канкрэтную мэту. Калі ты хочаш выкарыстаць гэта для Бога, трэба не баяцца перашкодаў і прыкласці шмат намаганняў для пэўнага выніку.

*Падрыхтавала* ***Ірына Грэйць***



# НОВЫ БІСКУП у Віцебску



**Біскуп Алег Буткевіч 18 студзеня ў Віцебскай катэдры прыняў біскупскае пасвячэнне з рук Апостальскага Нунцыя ў Беларусі Клаўдыё Гуджэроці. Дапаможнымі кансакратарамі на ўрачыстасці былі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Прысутнічалі на свяце прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу і дзяржаўнай улады. З віншавальным пасланнем ад біскупа Віцебскага Дзмітрыя на ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы.**

■ **Тэкст:** кс. Віктар Місевіч; **фота:** Іван Касевіч (1 стар.), Марына Сінкевіч (5 стар.)

### Папская була

Як вядома, само абвяшчэнне біскупа-наміната адбылося 29 лістапада ў Віцебскай катэдры. Тады гэтае рашэнне Папы Францішка абвясціў Апостальскі Нунцый Клаўдыё Гуджэроці. 18 студзеня падчас урачыстасці біскупскіх пасвячэнняў была зачытаная папская була – спецыяльны дакумент на лацінскай мове. Пераклад булы на беларускую мову агучыў ксёндз-пралат Францішак Кісель.

Папа ў буле напісаў, што біскуп Алег Буткевіч "хвалебнымі здольнасцямі надзелены і ў святых рэчах дасведчаны, быў прызнаны адпаведным, каб ёю [катэдрай Віцебскага Касцёла] кіраваць".

Абрад пасвячэння ў біскупы надзвычай прыгожы і вымоўны ў сваіх літургічных жэстах і словах. Калі ўявіць сабе, што адбываецца ён раз на дзесяцігоддзі, становіцца зразумела, чаму, не гледзячы на зімовую халадэчу, столькі вернікаў сабралася ў катэдральным касцёле Віцебска.

### Ці хочаш?

Любы сакрамант у Касцёле павінен прымацца свабодна і свядома, тым больш – сакрамант пасвячэнняў. Таму адбыўся дыялог біскупа-наміната Алега Буткевіча з галоўным кансакратарам арцыбіскупам Клаўдыё Гуджэроці:

– Ці хочаш верна і няспынна абвяшчаць Евангелле Хрыста?

– Хачу, – адказваў кандыдат у біскупы.

– Ці хочаш будаваць Цела Хрыста, гэта значыць, Касцёл, і быць у еднасці з усімі біскупамі пад кіраўніцтвам наступніка св. Пятра Апостала?

– Хачу! – гучала ў адказ.

– Ці хочаш як добры пастыр шукаць заблуканых авечак, быць міласэрным да ўбогіх і непарушным захаваць скарб веры?

На ўсе пастаўленыя пытанні біскуп-намінат Алег Буткевіч цвёрда і моцна адказаў "хачу".

### Дапамога праз стагоддзі

Паводле старажытнага звычаю, у самыя адказныя моманты ў жыцці Касцёла вернікі звяртаюцца па дапамогу нябесных заступнікаў. Гэтая дапамога дзейсная і рэальная, таму што збаўленыя вернікі ўтвараюць Нябесны Касцёл, які таксама з'яўляецца Містычным Целам Хрыста, а значыць, непарыўна звязаны з усімі тымі, хто яшчэ ідзе зямной дарогай да збаўлення. Біскупы, святары і простыя вернікі, спяваючы разам Літанію да ўсіх святых, маліліся за свайго новага біскупа. Сярод шматлікіх пералічаных імёнаў прагучала і імя далёкага папярэдніка біскупа Алега – святога мучаніка арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча, які загінуў за веру ў Віцебску ў 1623 годзе.

### Ускладанне рук і намашчэнне

Непасрэдны момант, калі кандыдат становіцца біскупам, – гэта момант ускладання рук. Гэты жэст паходзіць ад саміх апосталаў, якія такім чынам у малітве праз дзеянне Духа Святога перадавалі сваю апостальскую ўладу наступнікам. У Віцебскай катэдры жэстам ускладання рук арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці, а за ім і астатнія біскупы, перадалі біскупу Алегу апостальскую ўладу.

Абрад пасвячэння працягнуўся спецыяльнай малітвай. Адметна тое, што падчас яе над новапасвечаным біскупам дыяканы трымалі разгорнутую кнігу Святога Евангелля. Такім чынам нібы яшчэ раз прыпамінаючы ўсім, што галоўны абавязак біскупа – гэта абвяшчэнне Добрай Навіны пра збаўленне ў Езусе Хрысце.

У сакраманце прэзбітарскіх і біскупскіх пасвячэнняў ужываецца святы алей Хрызма. Адрозненне ў тым, што прэзбітарам намашчаюцца толькі рукі. Біскупу намашчаюць чало, як бы падкрэсліваючы, што гэты выбраны з'яўляецца галавой мясцовага Касцёла. Пасля намашчэння арцыбіскуп Клаўдыё ўручыў біскупу Алегу кнігу Святога Евангелля, кажучы: "Прымі Евангелле і абвяшчай Божае слова з усёй цярплівасцю і ўменнем".



### Персцень, мітра і пастарал

Кожны біскуп адрозніваецца знешне ад святароў біскупскімі адзнакамі. Таму біскуп Алег атрымаў ад Нунцыя персцень на безназоўны палец правай рукі, які з'яўляецца знакам вернасці біскупа і яго ўлады ў Касцёле. Крыху пазней на знак пашаны і паслухмянасці свайму пастыру ўсе святары Віцебскай дыяцэзіі, схіліўшы калені, пацалавалі персцень біскупа Алега.

Мітра – гэта галаўны ўбор, які носяць біскупы падчас Св. Імшы, і які павінен нагадваць ім і ўсім людзям пра бляск святасці, а таксама пра неўвядальны вянок хвалы, які падрыхтаваў Езус Хрыстус кожнаму верніку.

Апрача мітры, біскуп Алег атрымаў ад Нунцыя пастарал – посах, які сімвалізуе пастырскую ўладу і азначае, што пастыр павінен быць чуйным і сцерагчы свой статак ад драпежнікаў. Пасля ўручэння адпаведных адзнак біскуп Алег атрымаў ад кожнага прысутнага біскупа пацалунак супакою як знак еднасці ўсіх біскупаў Каталіцкага Касцёла.

### Мама і Беларусь

Такі ж знак супакою біскуп крыху пазней перадаў і сваім бацькам, якія з дзвюма роднымі сёстрамі біскупа Алега прысутнічалі на свяце. На выключную ролю бацькоў у выхаванні будучага біскупа звярнуў увагу і арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці ў гаміліі. Ён сказаў, што мама – гэта як беларуская зямля. Яна дала свайму сыну жыццё, малако, мову і культуру. Ён таксама запэўніў, што біскуп Алег не застанецца адзін. З ім будзе ўвесь віцебскі Касцёл: святары і вернікі.

### Любіце Касцёл!

Біскуп Алег у заключным слове сказаў прысутным: "Любіце Касцёл! Любіце Касцёл, які нават бывае недасканалы. Яго моц залежыць ад нашай веры. А вера будуецца малітвай, таму маліцеся, браты і сёстры! Маліцеся, каб вера вашых сем'яў, вера дзяцей і моладзі была моцная. Прашу вас за наш Касцёл тут, у Беларусі, тут, у Віцебску".

Словы новага біскупа Віцебскага Алега Буткевіча сталі сугучнымі з бласлаўленнем Папы Францішка ў намінацыйнай буле. Святы Айцец зазначыў: "Супакой Хрыста няхай будзе заўсёды з табою і з дыяцэзіяльнай віцебскай супольнасцю на дарагой Нам Беларусі". Калі Беларусь дарагая Папу-аргенцінцу, які ніколі не быў на Зямлі пад белымі крыламі, то тым больш яна павінна быць дарагой кожнаму, хто на ёй нарадзіўся і жыве. Кожнаму верніку, кожнаму католіку.

> *Усім вернікам Віцебшчыны неабходна з'яднацца вакол свайго новага біскупа, каб пад яго апостальскім кіраўніцтвам ісці дарогай збаўлення*

Перад біскупам Алегам стаіць адказная і няпростая місія: кіраванне дыяцэзіяльнай супольнасцю віцебскага Касцёла. Як ён сам з удзячнасцю зазначыў, шмат ужо зроблена яго папярэднікам біскупам Уладзіславам Бліном. Аднак будучыня нікому невядомая і яна любіць падкідваць розныя выклікі і сюрпрызы. Так, як зазначыў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці, усім вернікам Віцебшчыны неабходна з'яднацца вакол свайго новага біскупа, каб пад яго апостальскім кіраўніцтвам ісці дарогай збаўлення.

Біскуп Алег у сваім гербе пажадаў змясціць выяву Маці Божай Браслаўскай. Няхай яна апякуецца ўсёй дыяцэзіяй, новым маладым біскупам і кожным вернікам. Тады кожны зможа атрымаць неўвядальны вянок хвалы ў Валадарстве Нябесным. Няхай так станецца, бо такая воля Бога.

Catholicnews.by Каталіцкі ВЕСНІК №1(34) студзень 2014 г.

# З чаго пачаць шлях да Бога?

*"Мяне хрысцілі ў царкве. Бацька – каталік, маці – праваслаўная. Атрымлівалася, што хадзіла і ў царкву, і ў касцёл. Тры гады таму была ў пілігрымцы ў Ватыкан. Цяпер разумею, што хачу хадзіць у касцёл, чытаю малітоўнік. З чаго пачынаць шлях да Бога і Касцёла?"*

*Інэса*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску):**

– Пастаўленае пытанне паказвае спецыфіку хрысціянства ў нашай краіне. Мірнае суіснаванне розных хрысціянскіх канфесій ў Беларусі абумоўлена геаграфічным становішчам і гістарычнымі працэсамі, якія ўзбагацілі жыхароў нашай краіны дзякуючы пранікненню як усходняй, так і заходняй традыцый.

Абедзве пакінулі матэрыяльны і духоўны след (помнікі архітэктуры, літаратуру, культурную спадчыну, звычаі, і, канешне, шлях да Бога). У выніку на беларускай зямлі католікі і праваслаўныя не толькі жывуць мірна побач адно аднаго, але і яднаюцца паміж сабою праз змешаныя шлюбы. Такія сем'і, дзе адзін бок – каталіцкі, а другі – праваслаўны сустракаюцца з патрэбай вырашэння пытанняў рэлігійнага характару. І хоць абодва веравызнанні вельмі блізкія дактрынальна, тым не менш часам узнікаюць таксама праблемы, звязаныя з практыкаваннем веры і рэлігійным выхаваннем дзяцей.



Калі сужэнцы глыбока вераць і жывуць згодна з вызнаванай верай, а таксама сваім уласным прыкладам перадаюць яе дзецям, то гэта вядзе да збаўлення. Часта, жадаючы запэўніць гарманічнае ўзрастанне ў веры, сужэнцы выбіраюць сабе і сваім дзецям адну дарогу да Бога. Бывае і так, што бацькі ў змешаных сем'ях хрысцяць дзяцей, аднак не вядуць глыбокага рэлігійнага жыцця і такім чынам недастаткова спрыяюць развіццю веры.

Чалавек уключаецца ў Касцёл праз хрост, які ёсць падставай супольнасці паміж усімі хрысціянамі, а таксама з тымі, якія яшчэ не маюць поўнай камуніі з Каталіцкім Касцёлам (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла 1271). Кожны чалавек мае права на рэлігійную свабоду. У дакументах Касцёла чытаем: "Адзін з асноўных прынцыпаў каталіцкага вучэння, якое змешчана ў Божым слове і заўсёды прапаведвалася Айцамі Касцёла, заключаецца ў тым, што чалавек павінен адказваць Богу верай добраахвотна. Таму нікога нельга прымушаць прыняць веру. Акт веры па сваёй сутнасці з'яўляецца добраахвотным, бо чалавек, адкуплены Хрыстом-Збаўцам і пакліканы праз Езуса Хрыста да ўсынаўлення, не можа прыйсці да Бога, які адкрывае Сябе, пакуль пад кіраўніцтвам Айца не выкажа Богу разумную і свабодную паслухмянасць веры" (Дэкларацыя Другога Ватыканскага Сабору пра рэлігійную свабоду 10). Важна, каб выбіраючы веравызнанне, перш за ўсё шукаць Бога, а не абмяжоўвацца тым, што знешняе.

***Адзін з асноўных прынцыпаў каталіцкага вучэння заключаецца ў тым, што чалавек павінен адказваць Богу верай добраахвотна***

***Мірнае суіснаванне розных хрысціянскіх канфесій ў Беларусі абумоўлена геаграфічным становішчам і гістарычнымі працэсамі, якія ўзбагацілі жыхароў нашай краіны дзякуючы пранікненню як усходняй, так і заходняй традыцый.***

Асобе, якая атрымала хрост у Праваслаўнай Царкве і жадае прыступіць да поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам, пажадана звярнуцца да святара мясцовай Рыма-каталіцкай або Грэка-каталіцкай парафіі. Ксёндз дапаможа абраць адпаведны шлях, які датычыцца канкрэтнага чалавека. Вельмі важным можа стаць спатканне з манахіняй або з вернікам супольнасці, якія маюць патрэбную падрыхтоўку. Перш чым прыступіць да поўнай еднасці з Касцёлам, трэба пазнаць праўды веры і прынцыпы жыцця ў Касцёле. Важна памятаць, што рэлігійным жыццём кіруе Дух Святы, Які дапамагае чалавеку адкрыцца на Бога і вядзе яго па шляхах веры. У дарозе да Бога вялікую ролю адыгрывае супольнасць вернікаў, якая падтрымлівае ў працэсе хрысціянскай фармацыі. Наступным крокам павінна стаць паглыбленне каталіцкага веравучэння, чытанне Божага Слова, асабістая і супольная малітва, а пазней – паступовы ўваход у літургічнае жыццё супольнасці, г. зн. удзел у святой Імшы, набажэнствах і падрыхтоўка да прыняцця сакрамантаў.

Не толькі на пачатку пазнання Касцёла, але і пазней вялікай дапамогай паслужыць духоўны кіраўнік (найчасцей святар), які спадарожнічае верніку ў яго дарозе яднання з Богам. Кожнае пакліканне, таксама і да веры, патрабуе часу і цярпення, каб яно магло ўзрасці. Дарога да Бога – гэта шлях да Любові, па якім трэба ісці адважна і з даверам свайму сэрцу, з'яднанаму з Хрыстом.

# Ці можна піць святую ваду?

*"Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, ці можна піць асвечаную ваду кожны дзень, не маючы ў гэтым неабходнасці? Мае дзеці кожную раніцу, зрабіўшы знак крыжа, п'юць тры глыткі вады з Будслава. Ці не з'яўляецца гэта блюзнерствам?"*

*Вольга*

**На пытанне адказвае кс. Аляксандр Сапель:**

– Гісторыя вады ў хрысціянскіх рэлігіях мае вельмі доўгую традыцыю, якая бярэ пачатак са Старога Запавету.

На працягу стагоддзяў ваду выкарыстоўвалі ў розных мэтах. Яна мела вялікае лекавае значэнне: вада з крыніцы, з іншых месцаў, што славяцца цудамі. Каля некаторых санктуарыяў можам знайсці асвечаную ваду.

Кожны з нас павінен адрозніваць ваду, асвечаную святаром, і з крыніцы (не асвечаную). Асвечаная вада становіцца выключанай са штодзённага (свецкага) карыстання. Яна павінна быць выкарыстана паводле малітвы Касцёла, якой моліцца святар. Крынічную ж ваду можам ужываць па-рознаму: мыцца, рабіць гарбату, праць.

Пры асвя-чэнні вады малітвы змяня-ліся на працягу стагоддзяў. Хоць трэба прызнаць, што апошняя малітва перад Другім Ватыканскім саборам была вельмі багатага зместу, але толькі адна. Ватыканскі сабор уводзіць змены, і колькасць малітваў павялічваецца. Гэта дае святару права выбраць малітву для адпаведнай сітуацыі.

Новыя малітвы асвячэння вады, якія выкарыстоўваюцца па-за святой Імшой, наогул маюць у сабе агульныя просьбы да Бога: пра Божую апеку (De benedictionibus nr. 1093), аб нашым аднаўленні душы і цела (1094), аб блаславенні і ачышчэнні для Касцёла (1095), пра тое, каб вада нагадвала нам аб нашым хросце (1304, 1324). Ва ўспамін св. Агаты асвячаецца вада для таго, "каб бараніла нас ад агню і ўсіх небяспек" (1333).



Бласлаўленне вады падчас св. Імшы: святар просіць Бога, каб даў праз ваду "абарону ад усялякіх хваробаў і падступаў д'ябла" і каб пазбегнуць "усіх небяспек для душы і цела".

Трэба таксама памятаць, што акрапленне падчас святой Імшы – гэта памятка нашага хросту. Хрысціянін акунаецца – ачышчаецца ад першароднага граху. Разам з Хрыстом ён змёртвыхпаўстае ўжо як новы чалавек. Гэта настолькі важны момант, што ўсё, што адбываецца ў пазнейшым жыцці чалавека, павінна быць клопатам пра гэты выбар, каб яго ўмацоўваць, развіваць і ўдасканальваць.

***Касцёл бласлаўляе рэчы: памяшканні, прадметы, ежу, але сапраўдным адрасатам блаславення з'яўляецца чалавек***

Касцёл бласлаўляе рэчы: памяшканні, прадметы, ежу, але сапраўдным адрасатам блаславення з'яўляецца чалавек. Рэчы маюць адзіную мэту – дапамагчы "быць пасярэднікам" у персанальнай сустрэчы чалавека з Богам. Рэчы не атрымліваюць нейкай моцы. Самі па сабе яны не могуць дапамагчы ў працэсе збаўлення, але з'яўляюцца важнымі настолькі, наколькі ім спадарожнічае вера ў моц і Божае дзеянне. Такое разуменне асвечаных рэчаў вельмі важнае, бо аберагае перад магічным стаўленнем да іх.

Шмат можна казаць пра сакраманталіі ў Касцёле, але, адказваючы на пастаўленае пытанне, хачу падкрэсліць, што піццё асвечанай вады не з'яўляецца блюзнерствам.

# Адмова ў пахаванні

*"Ці можа святар адмовіцца пахаваць чалавека? Калі так, то ў якіх выпадках?"*

*Павел, 21 год*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску):**

***Адмову ў касцельным пахаванні не трэба ўспрымаць як пакаранне памерлага ці яго родных, але як вынік выбару, учыненага чалавекам пры жыцці.***

– Касцёл у абрадзе пахавання выпрошвае духоўную дапамогу памерлым, аказвае пашану чалавечаму целу, якое ёсць святыняй Духа Святога, а таксама суцяшае тых, хто ў жалобе нясе надзею вечнага жыцця (Пар. Кодэкс Кананічнага Права 1176).

Права на каталіцкае пахаванне мае кожны вернік, аднак ёсць выпадкі, калі святар павінен адмовіць у правядзенні абраду пахавання.

Кодэкс Кананічнага Права ў каноне 1184 пералічвае тры катэгорыі вернікаў, якія пазбаўлены касцельнага пахавання, калі яны не пакаяліся перад смерцю:

1. Тыя, хто сам паставіў сябе па-за Касцёлам: паўсюдна вядомыя адступнікі ад веры, ерэтыкі і схізматыкі;
2. Тыя, хто выбраў крэмацыю па матывах, супраціўных хрысціянскай веры (каб паказаць, што не вераць ва ўваскрашэнне цела);
3. Яўныя грэшнікі, касцельнае пахаванне якіх выклікала б публічнае ўзрушэнне.

Адмову ў касцельным пахаванні не трэба ўспрымаць як пакаранне памерлага ці яго родных, але як вынік выбару, учыненага чалавекам пры жыцці.

Прыняцце пробашчам (часам разам з роднымі памерлай асобы) такога складанага і прыкрага для супольнасці Касцёла рашэння не замінае малітве аб Божай міласэрнасці для нябожчыка.

Можна таксама ахвяраваць за такога чалавека святую Імшу, якую святар можа цэлебраваць у іншы час, чым само пахаванне.

# Неадпушчаны грэх аборту



***"Што рабіць, калі святар не адпусціў грэх аборту?"***

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску):**

– Каталіцкі Касцёл абвяшчае праўду пра каштоўнасць чалавечага жыцця з моманту зачацця ажно да натуральнай смерці. Благаслаўлёны Ян Павел II адну са сваіх энцыклік, прысвечаных вартасці і непарушнасці жыцця чалавека, распачаў словамі: "Евангелле жыцця ляжыць у аснове паслання Езуса Хрыста. Касцёл кожны дзень прымае яго з любоўю, каб верна і адважна абвяшчаць як добрую навіну для людзей усіх часоў і культур". Права на жыццё, якое ёсць Божым дарам, ахоўваецца запаведдзю "Не забівай", якая абараняе асабліва слабых і безабаронных. Зачатая чалавечая істота без сумневу належыць да гэтай катэгорыі.

Кодэкс Кананічнага Права далучыў штучнае перарыванне цяжарнасці да злачынстваў супраць жыцця і свабоды чалавека. Хто свядома і добраахвотна здзяйсняе гэтае злачынства, не толькі цяжка грашыць, але і падлягае экскамуніцы (найвышэйшае касцельнае пакаранне). Экскамунікаванай асобе (з лацінскай мовы – "выключаны з жыцця супольнасці") забараняецца:

1. Здзяйсняць Эўхарыстыю і якія-небудзь іншыя абрады культу;

2. Здзяйсняць сакраманты і сакраманталіі, а таксама прымаць сакраманты;

3. Займаць касцельныя пасады, здзяйсняць служэнне або якія-небудзь іншыя заданні, ці выконваць кіраванне (пар. ККП, кан. 1331 § 1).

***Вернік, які здзейсніў штучнае перарыванне цяжарнасці і такім чынам падлягае экскамуніцы, можа паяднацца з Богам і Касцёлам, калі навяртаецца, шкадуе і хоча выправіцца***

У выпадку здзяйснення штучнага перарывання цяжарнасці, якое мы ведаем пад назваю "аборт", экскамуніцы падлягае ў моц самога права (аўтаматычна) не толькі маці зачатага дзіцяці, але таксама і той, хто свядома, добраахвотна і дзейсна ўдзельнічае ў гэтым акце (доктар, медперсанал), і тыя, хто прычыняецца да аборту (скіроўваюць у абартарый, схіляюць да аборту, даюць грошы на яго).

Вернік, які здзейсніў штучнае перарыванне цяжарнасці і такім чынам падлягае экскамуніцы, можа паяднацца з Богам і Касцёлам, калі навяртаецца, шкадуе і хоча выправіцца. Згодна з нормамі Кананічнага права, вызваліць ад эксамунікі можа біскуп. Пераважна біскупы вызначаюць святароў, якім надаюць права вызваляць ад касцельных караў. Звычайна ў кожнай дыяцэзіі прызначаны дыяцэзіяльны пенітэнцыярый (адзін або больш), які спавядае у катэдральным ці іншым вызначаным біскупам касцёле. У Мінска-Магілёўскай, Віцебскай і Пінскай дыяцэзіях згодна з пастановамі Сінода названых дыяцэзій (2000 год) вызваліць ад экскамунікі могуць душпастыры з пяцігадовым вопытам святарства (пар. Статуты Сінода 655).

Асобе, якая здзейсніла грэх аборту і прагне паяднацца з Богам і супольнасцю Касцёла, трэба пайсці да споведзі і вызнаць свае грахі. Святар, які прымае споведзь, распазнаўшы стан пэнітэнта і яго гатоўнасць прыняць прабачэнне, пры захаванні права або сам вызваліць ад экскамунікі і ўдзеліць абсалюцыю (адпушчэнне грахоў), або іншым чынам дапаможа ў працэсе ачышчэння (можа, напрыклад, параіць звярнуцца да адпаведнага спаведніка). Нельга дапусціць думкі, што святар не растлумачыць верніку, што яму рабіць.

Вельмі важна, каб грэшнік, які хоча вярнуцца да поўнай еднасці з Богам і Касцёлам, зразумеў не толькі цяжар свайго граху, але і веліч Божай любові і міласэрнасці, вартасць і сілу прабачэння, праз якое Бог нанова стварае і падымае чалавека, аднаўляючы ў ім свой вобраз і падабенства.

Штучнае перарыванне цяжарнасці глыбока раніць таксама здзяйсняльніка гэтага граху, асаблівым чынам маці, і пакідае ў душы свой след і вялікае пачуццё віны. У Апостальскай адгартацыі "Reconciliatio et paenitentia" благаслаўлёны папа Ян Павел II прыпамінае, што любоў Божая большая чым грэх, таму вернік, спазнаўшы любоў Бога, адказвае таксама любоўю, якая схіляе яго прасіць аб прабачэнні і адкрывае на дар паяднання.

***Хто свядома і добраахвотна здзяйсняе злачынства аборту, не толькі цяжка грашыць, але і падлягае экскамуніцы (найвышэйшае касцельнае пакаранне).***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 студзеня 2014 г. — Мц 4, 12-23**

Божае валадарства – гэта Божае ўладаранне. Біблія, гаворачы пра Божае валадарства, гаворыць пра тое, як у нас і паміж намі валадарыць Хрыстус. Божае валадаранне ў сэрцах – гэта святло для тых, хто жыве ў цемры смерці. Божае валадарства – гэта крыніца жыцця і праўды Божай навукі. Каб прыняць уладу Бога над сабой, патрэбна навяртанне. Змена мінулага жыцця, а перадусім – змена мыслення. Гэта будаванне сваёй надзеі і шчасця на новых каштоўнасцях, на Богу. Тое, што было ў нашым жыцці і мысленні добрым, – удасканаліць. А дрэннае і бязбожнае – адкінуць. Бог да будавання Божага валадарства кліча людзей. Яны, адораныя Яго ласкамі, адважна і з разуменнем павінны адгукацца на Яго заклік. Навука Хрыстуса пра Божае валадарства – гэта добрая навіна. Бог хоча валадарыць у нас і паміж намі, але не для таго, каб зрабіць нас рабамі. Ён хоча зрабіць нас Божымі дзецьмі. Яго валадарства – гэта валадарства любові.

*– Хто з'яўляецца панам майго сэрца,маёй душы і майго жыцця? Пан Езус? Я сам? Іншы чалавек? Жарсць? Залежнасць?*

*– Хто раней быў панам майго жыцця?*

*– Якім чынам Божае ўладаранне ў маёй душы прынесла мне жыццё?*

*– Ці гляджу на каштоўнасць жыцця па-новаму?*

*– Як выглядае маё духоўнае жыццё?*

*– Ці кіруюся святлом праўды Божай навукі?*

*– Ці давяраю словам Хрыста?*

*– Ці паслухмяны Яму?*

*– Ці сапраўды я навярнуўся?*

*– Ці адкінуў старых"панаў"?*

*– Ці змагаюся і як змагаюся са старымі захапленнямі?*

*– Ці навярнуўся ў мысленні?*

*– Ці навярнуўся ва ўчынках?*

*– Ці разумею, што змены і жыццё дасканалае паводле законаў Божага валадарства – гэта працэс?*

*– Ці разумею, што за маю душу ідзе змаганне?*

*– Ці прымаю Божы заклік да будавання Божага валадарства?*

*– Што я гатовы адкінуць, каб ісці за Езусам?*

*– Ці разумею,што я – Божае дзіця? А можа, жыву ў цемры падману і думаю, што дабро, шчасце і любоў можна знайсці па-за Богам?*

*– Якую маю ментальнасць – раба ці дзіцяці Божага?*

**2 лютага 2014 г. — Лк 2, 22-40**

Езуса прыносяць у святыню да Айца. Ён будзе выдадзены за веру. Будзе ахвяраваны на крыжы для нашага збаўлення. У гэтай Хрыстовай справе ўдзельнічаюць людзі, якія звязалі сваё жыццё з Богам: Марыя, Якая складае ахвяру ачышчэння і атрымлівае прароцтва пра цярпенні; Юзэф, які падтрымлівае Марыю ў выкананнні прадпісанняў права, не ўсё разумеючы, разам разважаюць над словамі прароцтва; старац Сімяон, які абвяшчае Езуса, і Ганна, якая праслаўляе Бога. Гэта людзі, асвечаныя Божым духам. Людзі, якія звязалі сваё жыццё, яго сэнс і шчасце з Богам.

*– Ці ўсведамляю, што маё жыццё ўпісваецца ў Божы план?*

*– Ці веру, што Езус хоча зрабіць мяне супрацоўнікам Божых спраў?*

*– Ці шукаю свайго месца і паклікання пры Езусе і ў Касцёле?*

*– Ці дазваляю, каб Божы дух кіраваў мной у справе будавання Божага валадарства?*

*– Ці заўважаю Божыя справы ў маім жыцці і вакол мяне?*

*– А можа, усё жыццё ўцякаю ад рэчаіснасці ў свет мараў і планаў?*

*– Ці сапраўды жыву сваім пакліканнем?*

*– А можа, чакаю пенсію, вольны час або просьбу пробашча?*

*– Ці не ашукваю Божага духа нязначнымі адгаворкамі?*

*– А можа, маю фальшывыя сціпласць і пакору?*

*– Можа, гавару, што я – нездольны ці нягодны?*

*– Ці памятаю, што гэта Бог кліча, а таксама дае здольнасць, годнасць і патрэбныя ласкі?*

*– Як стаўлюся да паклікання Езуса?*

*– Ці бачу каштоўнасць таго, што я – жанчына, мужчына, сужэнец, бацька, хворы, стары?*

*– Як стаўлюся да духоўных асобаў і асобаў кансэкраванага жыцця? З верай ці па-свецку?*

**9 лютага 2014 г. — Лк 20, 27 – 38**

Езус даў сваім вучням заданне сведчыць пра Божае валадарства. Іх сведчанне патрэбна Езусу для выканання сваёй місіі. Гэта місія – рабіць дабро, будаваць Божае валадарства. Людзі, гледзячы на наша дабро, накіруюцца да Айца, каб праславіць Яго. Трэба жыць паводле права любові. Гэта і будзе знак дзеяння Бога ў нас для іншых. А таксама знак, што Бог любіць нас і праз нас. Гэта новая евангелізацыя. Вучань Езуса, які не любіць, – гэта соль без смаку і святло, якога не бачна.

*– Ці маё жыццё – гэта сведчанне Божай любові і валадарання Бога ў маім сэрцы?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Ці раблю дабро, да якога мяне кліча Пан Бог?*

*– Які я сужэнец, бацька?*

*– Ці дапамагаю ўбогім?*

*– Ці прабачаю? Ці суцяшаю? Ці заахвочваю да добрага? Ці адводжу ад зла?*

*– Ці змагаюся свядома за трываласць свайго сужэнства, сваёй сям'і і парафіяльнай супольнасці?*

*– Ці ўдзельнічаю ў добрых справах, якія Пан Бог робіць праз іншых?*

*– Ці актыўна ўдзельнічаю ў жыцці парафіі?*

*– Ці згуртоўваю людзей вакол добрых спраў?*

*– Як будую Божае валадарства? Што раблю для гэтага?*

**16 лютага 2014 г. — Мц 5, 17-37**

Езус вучыць жыць паводле права любові. Так выканалася і ўдасканалілася Майсеева права. Ён хоча, каб Яго вучні любілі так, як Ён. Не толькі не забівалі, але не гневаліся, не абражалі словам, умелі дамовіцца, аб'яднацца і не развівалі ў сабе непрыязнасці да каго б ні было. Ён заклікае выправіць учыненую крыўду. Вучыць, што не толькі не трэба чужаложыць, але нават глядзець і думаць пра іншых чыста. Мы павінны змагацца са спакусамі, якія адцягваюць нас ад сапраўднай любові. Павінны быць вернымі і не крыўдзіць сужэнца ці сужэнку. Павінны гаварыць праўду, а нашы словы павінны выклікаць давер.

*– Ці жыву я паводле права любові?*

*– Ці з'яўляецца Езус маім узорам любові?*

*– А можа, спрабую быць Яго вучнем, але не стараюся жыць паводле загадаў любові?*

*– Ці працую са сваімі пачуццямі?*

*– Ці размаўляю пра іх з богам на малітве і са святаром у спавядніцы?*

*– Ці "працую" над сваім языком? Над тым, што і як гавару?*

*– Ці будую згоду і еднасць?*

*– А можа, рассяваю плёткі, нянавісць, падазронасць і непрыязнасць?*

*– Ці спрабую выправіць прынесеную крыўду?*

*– Як гэта раблю?*

*– Ці ўпісваю сексуальнасць у лік духоўных спраў?*

*– Ці разумею, што нельга адарваць сексуальнасць ад любові?*

*– Ці разумею любоў па-Божаму?*

*– Ці шчыра спавядаюся з усіх нячыстых грахоў?*

*– А можа, важнасць некаторых змяншаю?*

*– Ці клапачуся пра чысціню свайго сэрца?*

*– Як гэта раблю?*

*– Чаго пазбягаю?*

*– Ці пазбягаю спакусаў?*

*– Як змагаюся са спакусамі?*

*– Як выглядае мая любоў да майго сужэнца, сужэнкі?*

*– Ці гавару праўду і ці жыву ў праўдзе? А можа, хітру і прыкідваюся?*

*– Ці памятаю, што ва ўсіх справах павінна быць любоў?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Мінулы год

**У мінулым годзе адбылося шмат значных падзей у свеце, у краіне і ў асабістым жыцці людзей. А чым узрушыў 2013 год чытачоў "Каталіцкага Весніка"?**

*Апытанне праводзіла* ***Ірына Грэйць***

**Анджэй Сташкевіч:**

*– Мінулы год сам па сабе быў не вельмі цікавы, але дзякуючы Пану ўсе непрыемныя сітуацыі вырашыліся. На жаль, летась не атрымала-ся паўдзельнічаць у пілігрымцы да Маці Божай Будслаўскай. Але я трапіў у Тракелі. Хачу падзякаваць Госпаду за паспяховую здачу сесіі, за тое, што я больш не хварэю. У 2013 годзе я пяць разоў стаў дзядзькам! Бог дапамог мне перажыць смерць айчыма, спыніў алкагалізм бацькі. Мой малодшы брат паступіў. Каб не Езус, у мінулым годзе ўсё магло б быць значна горш.*

**Уладзіслаў Чайкоўскі:**



*– У духоўным плане 2013 год быў "як чорным, так і белым": шмат крызісаў веры і выхад з іх, пэўны вопыт. Вясной я быў на музычных рэкалекцыях у Жодзіне, якія праводзіў гурт "Кана". Гэты час дапамог адказаць на шмат пытанняў. У Віцебску перад святам Спаслання Духа Святога я быў на рэкалекцыях а. Міхаіла Цвячкоўскага. Там я пашырыў свае веды па тэкстах з Бібліі. Зараз зусім па-іншаму гляджу на Святое Пісанне. Летам здаў найцяжэйшую сесію ў сваім жыцці. Усё гэта адбылося дзякуючы таму, што Госпад пачуў мае малітвы, а таксама просьбы суполкі "Дамолімся", што знаходзіцца ў сацыяльных сетках – "Укантакце". Ужо на наступны дзень пасля экзаменаў я ішоў у пілігрымцы Віцебск – Будслаў. На гэтым шляху я адзначыў свой найлепшы дзень народзінаў. У мінулым годзе я ўпершыню быў апекуном для непаўнаспраўнага чалавека падчас падарожжа ў Польшчу. Тады я зразумеў, што не патрэбна сумаваць, якім бы складаным ні было жыццё. Першы раз я стаў аніматарам на рэкалекцыях "Аазіс". Памятаю таксама той дзень, калі Папа прызначыў новых біскупаў для Беларусі. Сярод іх быў добра вядомы мне кс. Алег Буткевіч. Я тады проста танчыў з радасці за сваю дыяцэзію. Дзякуй Госпаду за 2013 год!*

**Людміла Нячай:**



*– Калі браць пад увагу тое, што адбывалася ў свеце, то, на жаль, за гэты год здарылася дастаткова шмат падзей, звязаных з прыроднымі катаклізмамі, з вайной. Часам прыходзіць думка, што для некаторых куткоў нашай Зямлі вайна становіцца "нормай". Хочацца верыць, што наша Беларусь, ды і ўвесь свет, будуць жыць мірна. Для ўсіх католікаў яскравай падзеяй стала абранне новага Папы Францыска. Не спыняе ўражваць яго дабрыня, жыццярадаснасць, прастата і адкрытасць да людзей, мудрасць яго слоў і рашэнняў. Вельмі радая, што, паводле меркавання часопіса "Time", Папа стаў чалавекам года. "З акцэнтам на спагадзе лідар каталіцкага касцёла стаў новым голасам сумлення", – напэўна, лепш і не скажаш. Віцебшчыну таксама чакаюць змяненні. Многім знаёмы кс. Алег Буткевіч стаў біскупам. Яго ведаюць як вельмі актыўнага і добрага святара. Думаю, што католікі Віцебскай дыяцэзіі ў надзейных руках. Дзякую Богу за тое, што Ён кожны дзень дапамагае мне пераадольваць розныя цяжкасці. Заўсёды адчуваю Яго падтрымку і дапамогу.*

**Таццяна Дзегцярова:**



*–Дзякую Госпаду за тое, што заўсёды побач былі мае бацькі, сябры. У 2013 годзе я пазнаёмілася з добрымі людзьмі. Ужо засталося некалькі крокаў да атрымання дыплома. У мінулым годзе побач са мной былі шчырыя настаўнікі, у якіх варта павучыцца. Выдалася таксама магчымасць папрысутнічаць на сустрэчы моладзі ва Украіне. Вялікая радасць для нашай Віцебшчыны – новы біскуп. Кожную хвіліну Госпад быў побач.*

**Кл. Яўген Баланёў:**



*– Хочацца з падзякай звярнуцца да Госпада за мінулы, 2013 год. Год Божай міласці і дабрыні, год дзеяння Святога Духа і аднаўлення Касцёла... Гэта бачым у выбранні новага Папы Францыска. Ужо за некалькі месяцаў яго пачалі паважаць людзі розных рэлігій, а таксама тыя, хто не верыць. Гэта сведчыць пра тое, што Святы Айцец шчыра служыць людзям усяго свету. Наша краіна таксама атрымала падарунак ад Бога: трох новых біскупаў. Дзякую Госпаду і за святароў Пінскай духоўнай семінарыі, дзе я вучуся.*

# Фотамайстэрня ў Глыбокім

**У Глыбокім 11 студзеня рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" правяла майстар-клас для аматараў фотаздымкаў.**

■ **Марына Сінкевіч,** *тэкст;* **Ірына Грэйць,** *фота*




Вядоўца майстэрні спадар Леанід Юрык звярнуў увагу прысутных на такія пытанні, як здымкі люстраной фотакамерай, апрацоўка здымкаў у праграме Photoshop, рэтуш здымкаў з частотным раскладаннем, відэаздымка фотаапаратам, праца з RAW-файламі, апрацоўка JPEG-здымкаў у RAW-канвертары, мантаж відэа.

Шмат пачутай інфармацыі і практычныя заняткі – гэта найлепшы падмурак і для фатографа-пачаткоўца, і таксама для тых, хто з фота і відэа працуе ўжо не першы год.

P.S. Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка» выказвае шчырую падзяку кс. Мечыславу Янчышыну з Глыбокага за дапамогу ў арганізацыі семінара.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Юзэфа Шарабайка** (в. Прыпернае, Глыбоцкі р-н), **Ядвіга Кісель** (г. Вілейка), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Альбіна Шылько** (г. Глыбокае), **Эвеліна Клімантовіч** (г. Бярозаўка, Лідскі р-н), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Фаіна Яршова** (г.п. Фарынава, Полацкі р-н), **Марыя Шкорнік** (в. Навасёлкі, Пастаўскі р-н), **Генавефа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Леакадзія Арлова** (г. Дуброўна), **Люцыяна Маркевіч** (в. Новы Двор, Шчучынскі р-н), **Людміла Бараноўская** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Вільгельміна Барткевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Крысціна Букатава** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Аляксандра Гушча** (в. Оцкавічы, Пастаўскі р-н), **Эдуарда Нагановіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Таццяна Рамейка** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Яніна Сінкевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Станіслаў Вышадка** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Марыя Садоўская** (г. Глыбокае), **Ядвіга Пупкевіч** (в. Краснае Беразіно, Докшыцкі р-н), **Баляслава Барэйка** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Алена Аляхновіч** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Яніна Грыбок** (г. Мінск), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Алена Кушаль** (в. Асінаўшчына, Докшыцкі р-н), **Аліцыя** (г. Паставы).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша. **Дарагія сябры, дзякуй, што вы ў нас ёсць!!!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 460

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.01.2014 г. у15.46

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ